**Цана 30 мк.**

Год I. Вільня 17 верасьня 1922 г. № 3.

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

## Тыднёвая Народная Газэтка

Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай і Навагрудзкай земляў.

| | | |
|---|---|---|
| Цана нумару 30 марак.<br>Газэтка каштуе з паштовай перасылкай, ў месяц 150 марак.<br>Без паштовай перасылкі ў месяц 100 марак. | Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Мастовая вул., 1, Народны Дом „Одродзэне“. Тэлефон 618.<br>Рэдакцыя адчынена ад 1—2 і 4—5 г. | Абвесткі<br>Цэлая старонка . . . . 10.000 мк.<br>1/2 старонкі . . . . . . 5.000 „<br>1/4 „ . . . . . . 3.000 „<br>Дробныя абвесткі . . . па 100 „ за радок |

*Кіраўнік Рэдакцыі:* ЛЮДЗЬВІК ХАМІНСКІ *пасол Сойму. Сябры Рэдакцыі: С. Ваяводзкі, Ф. Галавач, С. Бальбін, В. Шатун, В. Ігнатовіч, П. Жынь, Я. Дразловіч, М. Дзвярэцкі, А. Шапель.*

## Вызваленцы

Лідзкага, Валожынскага, Ашмянскага й Вялейскага павету! У нядзелю 24 га верасьня адбудзецца у Лідзе акружны зьезд „Вызваленьня“. Будзем радзіцца, як выйграць выбары і каго выбраць пасламі! На зьезьдзе будзе пасол Рудзінскі. Кожная вёска хай вышле свайго дэлегата.

АКРУЖНЫ ВЫБАРНЫ КАМІТЭТ П. Н. П. „ВЫЗВАЛЕНЬНЕ“.

## Народная еднасьць.

Калі-б уся сялянская кляса, калі-б усе вясковыя людзі дружна галасавалі за сваю партыю „Вызваленьне“, дык тады ў Варшаўскім Сойме было б вельмі мала паноў і ніякага значэньня яны ня мелі-б. На 444 пaслы было б 350 мужыкоў і рабочых!

Але, нажаль, гэтак добра ня будзе! Не дарма паны маюць розум, не дарма яны ведаюць, што калі дапусьцяць сялян да аб'яднаньня, калі не пасвараць іх паміж сабою, дык скончыцца іх улада ды прыемнае гультайскае жыцьцё. Дык давай сеяць нязгоду паміж працоўным народам. Зьбіраюць яны багатшых мужыкоў (вось гэткіх Вітосаў, альбо нашых тутэйшых Мілевічаў, што маюць млыны, больш як сто дзесяцін зямлі ды грошы ў банках і нагавараваюць іх, каб залажылі яны сваю партыю.

„Калі вы ня будзеце мець свае партыі,—кажуць ім, —дык бяднейшыя мужыкі забяруць ад вас вашую зямлю. Бараніцеся!“

Маняць паны, бо бедны гаспадар ня хоча зямлі ад багатшага, ён толькі хоча, каб урад справядліва надзяліў зямлёю з панскіх двароў тых, хто нічога, альбо вельмі мала маюць.

Як бедныя адтрымаюць зямлю й перастануць галадаць, дык хай сабе багатшы селянін дакупіць зямлі, калі яе яшчэ застанецца.

Але паны патрапілі настрашыць багатшых мужыкоў. Залажылі яны сваю партыю багатшых мужыкоў (P. S. L. „Piast“) і гэтым разьбілі народную еднасьць.

Апрача гэтага з'арганізавалі паны за ўрадовыя грошы Рады Людовыя. Прабавалі радзюкі арганізаваць пад сваей камандаю сялян у Польшчы. Але там народ сьвятлейшы, больш вучаны, пазнаў добра Рады Людовыя і ня пусьціў іх да сябе. Дык прыехалі гэтыя панічы сюды да нас і разьбіваюць мужыцкую еднасьць.

Чуюць такосама паны, што будзе дрэнна, калі польскі народ, дзеля барацьбы з імі аб'яднаецца з беларускім і украінскім народам. Дык стараюцца паны і іх пасварыць. Насылаюць сюды з Галіцыі ураднікаў, якія крыўдзяць народ, насылаюць калёністых ды асаднікаў, калі яшчэ ніводнай дзесяціны не далі тутэйшаму народу.

Гэткім чынам паны робяць тое, што народ тутэйшы штораз болей ненавідзіць прыезных палякоў і думае, што ня толькі паны, а і народ польскі хоча згубы для народу беларускага, альбо украінскага.

Вось дзеля чаго некаторыя беларусы ня йдуць разам з намі, Вызваленцамі, выстаўляюць асобныя выбарныя сьпіскі і праз гэта разьбіваюць народную еднасьць.

А паны аб'ядналіся ды сьмяюцца, што зноў ім удалося пасварыць „хамаў“.

Дрэнна стала. Бо польскі народ гэтак сама, як і народ беларускі і украінскі аднаго толькі маюць ворага, ворага супольнага—пана — найчасьцей польскага.

Калі беларусы будуць мець свой асобны Сойм, дык тады хай ідуць асобна, але цяпер у супольным Сойме трэба ўсім сялянам ісьці разам.

Нарэшце там, дзе народ яшчэ надта цёмны, ня ведае, што такое палітыка, дык даецца нагаварыць панскім агітатарам — прававатарам, якія прыкідаюцца народнікамі і радзяць, каб павет, альбо навет і воласьць вы ставіла свой сьпісак.

„Што вы будзеце выбіраць нейкага незнаёмага, якога вам прапануе партыя — выбірайце свайго суседа, якога добра знаеце". Выстаўляюць свой сьпісак, выбіраюць і аказваецца, што сусед іх у паслы не прайшоў. Чаму? Таму, што на пасла трэба сабраць якіх 25-30 тысячаў галасоў, а яны ў сваёй ваколіцы, навет у сваім павеце маглі сабраць толькі 3-4 тысячы галасоў.

Ашукаліся!

А паны ізноў сьмяюцца, што „хамскія" галасы разьбіліся. Гэткіх выпадкаў шмат было пры выбарах у Віленскі Сойм. Шмат сялянскіх галасоў памарнавалася, праз гэта паны перамаглі, праз гэта нічога не паправілася на лепшае.

Трэба йсьці на выбары ўсім разам, дружна: бедны й багаты, паляк, беларус ці украінец, каталік і праваслаўны, стары і малады, мужчына і кабета.

Усе разам і тады пераможам. Браты сяляне злучайцеся!

**С. Ваяводзкі.**

---

Вучэмся мудрасьці ад паноў, не шкадуюць яны грошай на выбары, бо ведаюць што, калі выграюць, дык адаб'юць яны на нашай скуры свае мільёны з вялікім працэнтам!

Не шкадуй і ты, браце, тысячы марак — за гэта будзем мець зямлю, прасьвету і уладу!

---

## Паліцэйская зьдзічэласьць у Лідзкім павеце.

На мітынгу ў Астрыне са сьлязьмі на вачох расказвалі людзі Старшыне Лідзкае Управы нашае партыі аб тэй дзікай расправе, якую робяць карацельныя аддзелы жандароў у некаторых (беларускіх і літоўскіх) валасьцёх Лідзкага павету. Расказы гэтыя малююць гэткую зьдзічэласьць, што таму, хто слухае, робіцца стыдна за польскага вураднікa ды паліцыянта ды за усё тое, што завецца культурай і цывілізацыяй 20-га стагодзьдзя.

Даволі сказаць, што вявінных жыхароў вёскі Крапіўчоўшчыны Костуся Альговіча і Мікалая Алюлёвіча скручвалі ланцугамі і білі прутамі ў пяты, дапытваючыся аб бандытах. Павявае 16-м сталецьцем з пыткаю Івана Грознага, альбо „сьвятое" Інквізыцыі. Рабункі над гэтымі людзьмі ўсё роўна як-бы правам былі дапушчэны: баруць усё — парсюкоў, бараноў, масла, сыры і што толькі трапіць пад руку. Часта сена шукаюць у куфрох і шафах. Бо з гумнаў амаль ня ўсё сена забралі.

У Ляховічах забралі валы, канюшыну і за ўсё мусела заплаціць вёска, а як верх зьдзеку, змушана вёска да выданьня подпісаў, што дала дабравольны гасьцінец.

Ня гледзячы на так гарачую для кожнага хлебароба пару году, змушаюць яны 13 чалавек як дзень, так ноч пільнаваць $1\frac{1}{2}$ кілёмэтра тэлефоннага дроту.

І ўсё гэта прыкрываецца тлумачэньнем, што яны „бароняць" край ад бандытаў! Зьдзек на кожным месцы і ў кожным руху. Бандытызм бандытызмам ня выкараніцца.

Ахвотна праваліўся б чалавек пад зямлю, каб толькі ня чуць гэтага змучанага нядоляй і крыўдамі чалавека. - Расказвае ён і баіцца, каб не пачуў гэтага хто нібудзь у мундзэры, альбо агент тайнае паліцыі.

Тое самае дзеецца з літоўцамі каля Начы.

І нічога дзіўнага, што ўсё гэта можа тварыцца над безбаронным мужыком, бо гэткі астрынскі паліцэйскі, ня гледзячы на дазвол ваяводы, разагнаў першы мітынг таго самага Старшыні Павятовае Управы „Вызваленьня" толькі таму, што Бальлін прыехаў не з палацу і не да палацаў, а з народу і для абароны народу.

Паведамляем усіх пакрыўджаных, што праз свайго пасла Хамінскага мы затрэбавалі найва стрэйшага сьледзтва аб гэтым зьдзеку. Пэўна ж, што усе гэтыя штучкі — гэта панская работа, каб якнайхутчэй задушыць і застрашыць народ. Дзеля гэтага нашым паслом вельмі цяжка дабіцца праўды, пакуль улада ў руках паноў. Праз гэта-ж толькі, замест пасла, або сьледчага судзьдзі прыяжджае да нас нейкі вураднічак, каб толькі схаваць „канцы ў ваду".

Але мы мусім змагчы гэту панскую вужаку і зможам напэўна ды хутка, калі Вы нам у гэтым паможаце, становячыся адною мужыцкаю грамадою пад штандарам „Вызваленьня" і галасуючы пры выбарах за „Вызваленьне".

Карацельныя аддзелы павінны быць адменены і якнайхутчэй павінна да нас прыехаць спэцыяльная камісія дзеля сьледзтва.

**Ст. Бальлін.**

---

Ад 15 да 28 верасьня пераглядайце у абвадовай камісіі сьпісак выбаршчыкаў! Мо' не запісалі там Вас, вашых сваякоў і знаёмых! Можа ужо хто назнарок украў вашыя галасы!

---

## Маёнткі абшарнікаў — месцам адсідкі і катаваньня народу.

Ніжэйпаданае пісьмо хай сьведчыць да якога азьвярэньня даходзяць абшарнікі й паліцыя ў некаторых мясцовасьцях.

10 і 11 верасьня 1922 году да вёскі Балькаўшчыны, Сьвірскае воласьці, Сьвянцянскага павету прыехала паліцыя са Сьвірскага паста і арыштавала некалькі нашых сыноў. За што арыштавалі іх ня ведаем. Арыштованых пагналі да двара Сьвір-Ляцкоўскі і цяпер штоночы б'юць няшчасных палкамі ды скручаным дротам. Нявінных людзей катуюць гэтак, што аж кроў булькоча ў ботах, а некаторыя зьбіты аж да страты прытомнасьці. На ўвесь двор разьлягаецца ўночы крык мучанікаў. Навет над семгадовым дзіцём ня маюць літасьці: палажылі яго на лаве і з прыстаўленым да грудзей нажом кажуць прызнавацца. Арыштованых трымаюць у ляdоўні пана гэтага двара. Ратуйце нас, добрыя людзі. Дайце знаць вышэйшым уладам! Хай прышлюць якога вурадніка для

зьведаньня справы й пакараньня вінаватых. Каб хаця біць перасталі сыноў нашых.

Арыштованых 14 чалавек: Марач Міхел, Марач Янка, Байка Мікалай, Кальчынскі Віцэнты, Мацясовіч Адварды, Мацясовіч Язэп, Драчун Янка, Марач Янка Пятроў сын, Марач Уладыслаў, Байка Гіпаліт, Жаброўскі Язэп, Ганчар Фэлікс, Ганчар Антон і Ганчар Язэп.

Ад імя ўсіх жыхароў падпісалі: Марач Янка, Рамэйка Нікодам, Сымановіч Янка, Рагоўскі Сьцяпан, Шушко Казімер, Шушко Хадімона, Рагоўская Паўліна, Дрозд Алена, Буткевіч Янка, Рагоўскі Язэп, Станкевіч Янка, Марач Мікалай, Мачкоўская Мар'яна, Рагоўская Зося, Грэйц Прэнцішак, Кунішча Андрэй і шмат яшчэ іншых.

— — — — — — — — —

Зьвярнуліся мы з гэтай справаю да Дэлегата Ўраду. Сказаў нам, што зараз жа вышле вураднік дзеля зьведаньня справы.

А Вам, Каханыя Браточкі, выказваем спачуцьцё. Не паддавайцеся роспачы, мейце надзею што бандыты паліцыянты будуць належна пакараны. Чакайце яшчэ цярпліва, мо' пераможа народ пры выбарах і надыйдуць лепшыя часы. Сэрца баліць нам, што нічым, апрача слова пацехі ня можам памагчы вам — самі яшчэ зьяўляемся безабароннымі і прасьледаванымі. Але хай нас нядоля народу злучыць у адну моцную грамаду „Вызваленьня" і прыйдзе дзень праўдзівае свабоды.

Хай гэтае пісьмо перачытае пан сьвянцянскі староста Некраш, хай даведаецца, якія ў яго пануюць парадкі. Памагае ён пястоўцам-вітосоўцам, а вельмі ня любіць вызваленцаў. Ці як пястоўцы-вітосоўцы выграюць выбары і пан староста пястовец далей будзе правіць, дык далей будуць катаваць людзей? На мітынгу вы вельмі хораша гаворыце, ужо цяпер раздаіцё партрэты свайго „галіцыйскага Бога" — Вітоса, пры якім, калі цэлы год правіў у Польшчы, былі ўсюды біты людзі гэтак, як бюць цяпер у Сьвянцянскім павеце, дзе старастаю вітосовец Некраш. Гэта яшчэ адзін довад, што вітосоўцы недалёка адыйшлі ад эндэкаў, бо ім толькі галасы сялян патрэбны, а не народнае шчасьце.

---

## Выбарныя штучкі.

Ворагі народу робяць цяпер розныя штучкі, каб разьбіць еднасьць народу. Галоўным чынам борюцца з „Вызваленьнем", бо добра разумеюць, што „Вызваленьне" зьяўляецца найстрашнейшым іх праціўнікам. Калі-б ім удалося разьбіць „Вызваленьне", дык тады лёгка яны запанавалі б на новыя 5 гадоў.

Вось-жа даведваемся, што ў Варшаве праз подкуп выкралі адрэсы чытачоў „Вызваленьня" і цяпер ім рассылаюць розныя свае газэты, брашуры й адозвы, ведама што бясплатна.

Грошай вам хапае, паночкі! Але дзе вашае сумленьне?

Галавач.

---

## Ці выбралі ужо у вашым абводзе свайго даверанага мужа, які будзе пільнаваць справядлівасьці пры выбарах?

---

## Таёмнасьць выбараў.

Браты сяляне скардзяцца нам, што ў некаторых мясцовасьцях паны й нячэсныя вураднікі страшаць, што будуць вас караць, калі будзеце галасаваць за „Вызваленьне".

Ня верце гэтаму! Выбары — тайныя. Ніхто ня мае права (а ні пан, а ні панскі агітатар, а ні паліцэйскі) аглядаць нумар, які вы ўкінеце ў скрынку ў канвэрце.

Як-жа можна пазнаць, хто за каго галасаваў?

Дык маняць паны, каб нас, сялян, настрашыць, бо думаюць, што мы яшчэ настолькі цёмныя й дурныя, што паверым ды кінем іх нумар, альбо зусім ня пойдзем на выбары.

От-жа не! Усе пойдзем на выбары і ўкінем наш нумар „Вызваленьня".

В.

---

## Яшчэ ня ведаем.

З усіх бакоў пытаюцца ў нас браты сяляне, які нумар будзе мець сьпісак „Вызваленьня", які нумар трэ будзе кідаць да выбарнае урны?

Некаторыя ўжо непакояцца, каб не пераблутаць нумароў так, як няраз было пры выбарах у Віленскі Сойм.

Мы таксама хацелі б ведаць, які наш будзе нумар, каб загадзя ўсіх аб гэтым паведаміць.

Але нумару сабе ніякая партыя не выбірае сама, а дае ёй цэнтральная выбарчая камісія ў Варшаве.

Як толькі будзем ведаць наш нумар, дык агалосім у газэтцы і ў адозвах. Гэта будзе ўжо праз некалькі дзён.

Пры гэтых выбарах „Вызваленьне" будзе мець адзін нумар ува ўсёй Дзяржаве — ўва ўсіх вакругох і абводах, так што эндэкам трудна будзе рабіць штучкі — кожны вызваленец будзе добра ведаць свой нумар.

С. В.

---

## Аб мужох давернасьці.

Арганізацыя зьяўляецца вельмі важнаю рэчай пры выбарах. Калі партыя мае веру народную, ня маючы добрай арганізацыі дык можа праайграць выбары. У час мусяць быць з'арганізованы зьезды, акружныя выбарчыя камітэты, але найважнейшая справа — мець мужоў давернасьці ў выбарных абводах. Муж давернасьці дастае упаважненьне ад партыі — ад поўнамоцніка сьпіску „Вызваленьня" і мае ён права яўна, ня крыючыся агітаваць, кантраляваць і сачыць, каб усе Вызваленцы падалі голас за „Вызваленьне". Ніхто ня мае права прасьледаваць партыйнага мужа давернасьці. Калі ў вас, у вашым абводзе яшчэ няма ад партыі мужа давернасьці, дык мусіце, якнайхутчэй сабраць усіх вызваленцаў і наагул праўдзівых сялян народнікаў. На гэткім сходзе мусіце выбраць спасярод сябе найэнэргічнейшага суседа, што найлепей умее чытаць і пісаць і ён вось будзе мужам давернасьці. Трэба зараз-жа аб гэтым напісаць да акружнога выбарчага камітэту партыі „Вызваленьне", каб прыслалі яму упаважненьне. Але, не чакаючы упаважненьня, хай выбраны муж давернасьці распачынае сваю дзейнасьць. Перш за ўсё хай выбера сабе ў кожнай вёсцы энэргічнага памоцніка — які будзе звацца давераным. Хай ён сам і яго памоцнікі-даверанын спраўджаюць,

071513



ці ўсе запісаны да галасаваньня, ці не запісалі каго з тых, хто галасаваць ня мае права — напрыклад, панскіх даяцей, якія ня маюць 21 году, альбо каго-нібудзь з засуджаных у вастрог, што лёгка, як чалавек нячэсны, дасцца паном падкупіць яго.

Муж давернасьці зьбірае грошы на выбары для „Вызваленьня“, арганізуе мітынгі й гутаркі. Калі муж давернасьці шчыры вызваленец, дык у працягу гэтых некалькіх тыдняў зможа зрабіць гэтулькі, што „Вызваленьне“ выйграе ў яго абводзе.

У дзень выбараў муж давернасьці павінен быць разам са сваім намесьнікам увесь час у памяшканьні, дзе будуць кідаць да урны (скрынкі) галасы. Яны маюць права і абавязак сядзець пры стале разам з камісіяй. Павінны яны а ні на крок не адходзіць ад стала—права пазваляе ім кантраляваць, што робіць уся выбарная абвадовая камісія. Мусяць яны перад пачаткам кіданьня галасоў пераканацца (паглядзець), ці парожняя зусім урна (скрынка), ці паны, або іншыя партыі ня ўкінулі ўжо картак перад галасаваньнем са сваім нумарам. Мусіць ён увесь час сачыць, ці правільна запісваюць галасы на паперы па скончаньні галасаваньня, калі будуць падлічаць галасы. Калі зазўважаць штосьці няправільнае, дык павінны запратэставаць і трэбаваць (бязумоўна) упісаньня гэтага у пратакол, каб пасьля можна было зрабіць выбары няважнымі. Прэзэс выбарчае камісіі абавязаны ўпісаць протэст у пратакол.

Тымчасам даверанья мусяць быць у той вёсцы, дзе будуць галасаваць. Павінны раздаваць людзям нашыя нумары і пільнаваць, каб іх не баламуцілі панскія агітатары. Агітаваць можна за сто (100) крокаў ад дому, ў якім галасуюць. Трэба пільнаваць, каб людзі давалі белыя карткі і толькі з нумарам „Вызваленьня“. Панскія агітатары могуць даваць каляровыя карткі (чырвоныя, ці іншыя), могуць нагавараваць, каб на картцы што-нібудзь напісаць (прозьвішча, слова „Вызваленьне“, альбо што іншае), але тады голас прападзе, будзе няважным.

Мужы давернасьці і даверанья павінны пільнаваць, каб пачынаючы ад 6 й гадзіны ўвечары папярэдняга дня і праз увесь дзень выбараў ніхто не прадаваў гарэлкі, альбо не частаваў гарэлкаю. Права гэта забараняе, а паны могуць захочуць спаіць людзей, каб лягчэй падгаварыць.

Яшчэ будзем пісаць аб тым, як галасаваць, каб не ашукаціі. Хай кожны добра памятае, што аб выбарах пішам.

**Свой.**

## Ці ужо усе у вас ведаюць, што галасаваць трэба толькі за „Вызваленьне“?

## Провінцыяльныя весткі.

### Як паліцыянты шануюць нашу народную газэтку, друкованую за мужыцкія грошы.

7 га верасьня на рынку ў Вялейцы да аднаго з Вызваленцаў, які прадаваў нашую газэтку „Вызваленьне Народу“ падыйшоў кіраўнік 1-га паліцэйскага паста ў Вялейцы і спытаўся, колькі яна каштуе, пасьля схапіў адну з газэткаў і з чартоўскаю мінаю пачаў зьвінаць у яе купленае мяса, думаў, што гэтым адаб'е людзей ад купляньня, але нічога, куплялі шмат нашае часопісі, якое паліцыянты гэтак ня любяць, бо яна праўду і аб іх друкуе.

### Як эндэцкія слугі сьпісваюць галасы.

У двары Лапацава сьпісвала галасы солтысава жонка з вёскі Заўрыткі, Норыцкае вол., але запісала толькі тых, якіх сказалі паны, да дворных хатаў не пайшла і там шмат засталося не запісаных. Дворная служба абурылася і прасіла грамадзяніна Навіцкага з Дунілавічаў, каб гэта напісаў у газэтку.

Гэтак сама абвдовы солтыс пан Лірын, эндэцкі слуга сьпісваў па адным чалавеку з хаты, кабетаў і старых не запісаў, кажучы, што яны не зайдуць да урны, бо ня маюць сілы.

Баяцца паны эндэкі, што зашмат галасоў пойдзе за абаронцамі народу, дык іх не запісваюць.

Але дрэнна й на гэтым выедуць.

---

## Пісьмо у Рэдакцыю

Грамадзянін Рэдактар!

Па доўгай развазе, па сумленным зьведаньні палажэньня рабочага народу, пастанавіў я ўступіць у „Вызваленьне“, як да адзінае, праўдзівае мужыцкае партыі, якая шчыра йдзе да барацьбы за зямлю, прасьвету і ўладу для народу.

Перад гэтым працаваў я у „Стражы Крэсовай“ — верыў гэтым паном з Варшавы, думаў, што яны шчыра будуць бараніць справядлівасьць. Калі сабраўся Віленскі Сойм, да якога я памог выбраць паслоў іх, паехаў і сам я да Сойму, каб паслухаць, як Рады Людовыя бароняць мужыка. І што-ж аказалася? Рады Людовыя здрадзілі сялян! З болем у сэрцы слухаў я іх прамовы, як радзілі, каб адлажыць на пасьля зямельную рэформу, справу арэндатараў, справу парабкоў, дзікае спекуляцыі — разьбіраньня спекулянтамі зямлі й лясоў і г. д. і т д.

Галасавалі яны ўвесь час з панамі — эндэкамі. Вось чаму Віленскі Сойм нічога не зрабіў для народу. Вось чаму я перастаў ім верыць. Рады Людовыя ізноў намаўляюць мяне, каб працаваў для іх пры выбарах у Варшаўскі Сойм.

Але сумленьне ўжо не пазваляе мне зрабіць гэта. Хаця я ведаю, што „Вызваленьне“ беднае, бо ад ураду грошай не бярэ і ня будзе магчы мне заплаціць за працу, але-што магу — зраблю, бо абавязак кожнага памагчы сягоньня ў барацьбе з панскаю рэакцыяй.

Прышлеце мне, Грамадзянін Рэдактар, некалькі экзэмпляр ў нашае газэткі, распрадам яе сярод знаёмых, а грошы вышлю Вам праз пошту. Бывайце!

**К. Сівіцкі.**

*Вёска Мельнікі, Усялюб. вол. Навагр. пав.*

---

Рэдактар-Выдавец С. Ваяводзкі. Друк. Б. .еўскага у Вільні.